На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№66 (1629)
Пятніца, 11 красавіка 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

Сёння ўдзень чакаецца: у Мінску — +5...+7, уначы — +3...+5, дождж; у Брэсце — +3...+5, дождж, уначы — +1...+3, снег; у Гродне — +1...+3, дождж, уначы — +3...+5, дождж; у Віцебску — +6...+8, ясна, уначы — +1...+3, без ападкаў, у Гомелі — +7...+9, ясна, уначы — +3...+5, дождж; у Магілёве — +6...+8, ясна, уначы — +2...+4, дождж. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—10 м/с.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## На «Чарнобыльскі Шлях» выйдзе толькі 1 тысяча чалавек?

10 красавіка ў Мінскі гарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне ў сталіцы 26 красавіка "Чарнобыльскага Шляху".

Заяўнікі просяць дазволіць правядзенне шэсця і жалобнага мітынгу, звязаных з 17-і ўгодкамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Збор удзельнікаў акцыі, якая пройдзе пад лозунгам "Чарнобыльскі Шлях — памяць дзеля будучыні!", плануецца на плошчы Якуба Коласа з 16.00 да 16.30. Запланаваны маршрут руху: плошча Я.Коласа — дзве паласы праезднай часткі праспекта Францішка Скарыны — дзве паласы праезднай часткі вуліцы Янкі Купалы — плошча Парыжскай Камуны, дзе з 17.30 да 18.30 запланавана правядзенне жалобнага мітынгу.

Па разліках арганізатараў, у акцыі возьме ўдзел прыкладна тысяча чалавек. Аўтары заяўкі гарантуюць грамадскі парадак падчас правядзення шляху.

Заяўку падпісалі Міхаіл Ганчарык, Уладзімір Лабковіч, Сяргей Альфер і Зміцер Марчук.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Расійскія піўвары ваююць з беларускімі таварамі

Саюз расійскіх піўвараў (СРП) звярнуўся ва ўрад Расіі з патрабаваннем увесці квоты на імпарт беларускіх тавараў.

Нагадаем, што аб прыпыненні экспарту піва ў Беларусь расійскія піўварныя кампаніі "Балтыка" і "Афанасій" заявілі пасля ўступлення ў сілу 1 красавіка пастановы Савета міністраў Беларусі "Аб упарадкаванні ўвозу і абароту на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь піва соладавага, паходзячага з краін Мытнага саюза, з якімі адменены мытны кантроль і мытнае афармленне".

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Затрымана маці-забойца

Супрацоўнікі Пінскага гарадскога аддзела міліцыі затрымалі жанчыну, якая пакінула сваё нованароджанае дзіця ў прыбіральні мясцовага філіяла страхавой кампаніі "Альвена".

Цела мёртвай дзяўчынкі прыбіральшчыца знайшла вечарам 8 красавіка. Супрацоўнік кампаніі тут жа паведаміў пра гэта ў міліцыю. Маці была затрымана 9 красавіка. Ёю аказалася 25-гадовая жыхарка сяла Нобель Ровенскай вобласці Украіны.

Жанчына прыехала да сваёй сястры ў Пінск, на кватэры ў якой і нарадзіла дзяўчынку. Вырашыўшы пазбавіцца ад дзіцяці, жанчына аднесла яго ў будынак страхавой кампаніі і пакінула ў прыбіральні.

## У Пінску любяць макавую саломку

Больш за 8 кілаграмаў макавай саломкі, 18 літраў экстракту опіуму і 1,5 літра прэкурсору канфіскавана ў двух жыхароў Пінска.

Падчас аперацыі "Мак" супрацоўнікі ўпраўлення па маральнасці і незаконным абароце наркотыкаў затрымалі ў падвале дома, які належыць тройчы судзімаму жыхару Пінска, 33-гадовага непрацуючага пінчука. У яго знойдзена 1,5 літра экстракту опіуму, 500 грамаў невысушанай макавай саломкі.

Падчас агляду падвальнага памяшкання было знойдзена і канфіскавана яшчэ 7 кілаграмаў 700 грамаў нявысушанай макавай саломкі, 16 літраў 500 мілілітраў экстракту опіуму і паўтара літра прэкурсору.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

**ВОЙНА В ИРАКЕ**

# Саддам пал

## Но никто пока не знает, куда

**Помнится, в самом начале военной кампании коалиции США и Великобритании против Ирака официальные лица Саддама Хусейна с улыбкой на лице заявляли, что "Багдад врагу не сдастся", что "каждый дом станет крепостью" и т.д. Сегодня реальность другая: войска коалиции полностью заняли Багдад. Солдаты иракской республиканской гвардии и вооруженные ополченцы оставили столицу.**



Многим запомнилось, как, заняв центр города, американские войска первым делом снесли главный памятник Хусейну. Тот самый памятник, перед которым раньше проходили военные парады и демонстрации благодарных трудящихся, а с трибуны приветственно махал этим трудящимся сам президент...

Железный тиран рухнул, оставив от себя лишь постамент и стопы с торчащими из них железными прутьями. Перед тем как американский танк "Абрамс" сделал свое дело, произошло событие, которое на меня лично произвело наибольшее впечатление. Сами иракцы, позабыв о страхе и сомнениях, привязали к скульптуре своего бывшего лидера веревку, которая вскоре, к их сожалению, порвалась, а потом начали по очереди дубасить постамент кувалдой. И это те самые иракцы, о которых нам годами внушали мысль, что они чуть ли не на 110% поддерживают своего "любимого президента Саддама Хусейна". Канал "Си-Эн-Эн" объявил падение статуи иракского президента на главной площади страны символом падения диктаторского режима.

В эти дни телеэкраны во всем мире обошли кадры ликующих граждан Ирака, которые открыто радовались концу тирана. Они разгуливали по центру Багдада с новыми флагами своей страны. Цвета флага — те же, но исчезла надпись "Нет бога, кроме Аллаха!", а в центре изображено солнце с расходящимися лучами. "Нет бога, кроме Аллаха, а Саддам — враг его!" — кричала толпа. Вот она цена многолетнему режиму страха и лежачего положения государственных подконтрольных СМИ в Ираке!

Что касается самого Багдада, то город сдался, как утверждают очевидцы, без серьезных боев. Как сообщил телеканал "Аль-Джазира", танки "вошли в город со всех сторон и не встретили никакого сопротивления". Главная проблема иракской столицы, как оказалось, это не атаки американской армии, а — местных мародеров. Видимо, такие люди, которые готовы любую беду превратить в праздник живота, есть везде. Причем тащили они с поверженных магазинов и лавок все, что попадалось под руку: не только продукты питания, но и люстры, кресла, старые холодильники, тракторные гусеницы. Какой-то мальчик нес письменный прибор с флажками стран — членов ООН.

Что касается прототипа свергнутого в Багдаде железного памятника, каким является сам Саддам Хусейн, то его судьба на вчерашний день оставалась неизвестной. Свергнутого диктатора, или, по крайней мере, его останки усиленно ищет американский спецназ. Пентагон до сих пор настаивает, что Хусейн мертв. Его глава Дональд Рамсфельд считает, что "трехдневное молчание президента Ирака может означать, что он либо мертв, либо тяжело ранен, либо просто скрывается, пытаясь избежать поимки".

Многие считают, что если Хусейн жив и покинул столицу, то скорее всего он перебрался в свой родной город Тикрит, который подвергается серьезным бомбардировкам, однако пока еще контролируется иракской армией. Но, как заявил Дэвид Перкинс, командующий второй бригадой третьей пехотной дивизии США, "иракцам в настоящее время важно понять — даже если Саддам Хусейн жив, он больше не у власти".

По неофициальной информации, временное правительство Ирака уже сформировано и в ближайшие дни начнет работу.

**Александр СИЛИЧ.**
**Фото "Рейтер".**

## Жыць без указальнай рукі

*Тое, што адбываецца ў цэнтры Багдада, назірае па тэлебачанні ўвесь свет. Здымак падаючай статуі крывавага дыктатара абышоў усе важнейшыя газеты планеты. Пляснуўся каменны Саддам, як нешта агіднае і плюгавае, на багдадскі асфальт. Так, аднолькава, заканчваюць усе дыктатары.*

Аднолькава яны і пачынаюць. З таго, што абяцаюць ашчасліўіць адразу ўсіх сваіх падданых. Так было з Леніным, Сталіным, Гітлерам.

Савецкія дыктатары захацелі загнаць "жалезным кулаком гісторыі" людзей у шчасце. Заганялі ў гэтае "шчасце" таксама вельмі падобнымі сродкамі. Ленін мог даць указанне расстраляць некалькі тысяч святароў толькі за іх веру, што шкодзіла новай, камуністычнай "рэлігіі". Сталін з дапамогай голаду мог "прарэдзіць" украінскую нацыю на сем мільёнаў людзей.

Багдадскі сябра самага вялікага беларускага начальніка не адстаў ад сваіх духоўных настаўнікаў. Сваіх палітычных канкурэнтаў у першыя гады праўлення ён проста расстрэльваў. Прадстаўнікоў іншай крыві, курдаў, душыў смертаносным газам. Сваіх заўзятых апазіцыянераў раствараў жывымі ў салянай кіслаце.

І вось — заканамерны канец. Вельмі сімвалічны: дыктатара скінулі на зямлю. Магутнага волата з выцягнутай уперад рукой. Ён ведае, куды весці народ. Бо гэта ж, у яго разуменні, быдла, без павадыра яно жыць не можа.

Як жа нам намазолілі вочы падобныя помнікі! Яны і сёння яшчэ стаяць, абшарпаныя, па ўсёй шматпакутнай Беларусі. Паўсюдна стаіць і некуды паказвае правадыр міжнароднага пралетарыяту па мянушцы Ленін. У Мядзелі, дзе прайшлі першыя гады майго працоўнага шляху, картавы правадыр чамусьці паказвае сваёй каменнай рукой на возера Мястра. Можа, ён запрашае церпячых нястачу жыхароў дружна рушыць на рыбалку? Альбо папросту прапаноўвае ўтапіцца?

Ніколі не бачыў на плошчы помніка Сталіну. Толькі некалькі спінінгавых блёсен з-за яго калісьці ў дзяцінстве страціў. Калі лавіў рыбу на вадасховішчы Сакаўшчынскай ГЭС, што нейкі час дзейнічала ў Валожынскім раёне. Якраз у гэтае вадасховішча, распавядалі людзі, аднойчы ноччу быў утоплены помнік павержанаму правадыру. За яго і чапляліся блёсны. Кажуць, што ўвасоблены ў камені Сталін таксама некуды ўсё ўказваў.

Мне падабаюцца іншыя статуі, іншыя помнікі. Памятаю, калі працаваў карэспандэнтам "Рабочей трибуны" ў Осла, паехаў першы раз на ўскраіну горада, у Холменколен, дзе знаходзіцца знакаміты лыжны трамплін. І ўбачыў там помнік перадапошняму нарвежскаму каралю Олафу V.

...На лыжах выйшаў з лесу трохі зморанны, спакойны і ўдумлівы чалавек. Спераду "бяжыць" яго любімы сабака. Ніякай грандыёзнасці. Ніякай указваючай рукі. Без гэтай рукі жылі і сёння шчасліва і заможна жывуць жыхары далёкай паўночнай краіны.

І ўсё ж такі ёсць надзея на лепшае. Тут, у Беларусі. Дастаткова пайсці ў Міхайлаўскі сквер Мінска і паглядзець на мілыя статуйкі. Такія жывыя, такія людскія. Будзем, будзем і мы жыць калісьці, як людзі. Без указальнай рукі...

**Міхаіл БАЦЯН,**
**свабодны журналіст.**

**РЕЗОННЫЙ ВОПРОС**

# Куда же мы движемся: в рай или ад?

*Если послушать Александра Лукашенко, то у нас улучшается благосостояние народа, страна движется в правильном направлении.*

*Послушаешь тех профсоюзных активистов, которые не стали подпевалами власти, — уровень жизни продолжает ухудшаться.*

*Кто прав? Вот две точки зрения.*

### Утверждения Александра Лукашенко

"...Вместе с вами мы можем гордиться тем, что по индексу человеческого развития ООН наша страна сегодня опережает все республики бывшего Советского Союза и большинство стран Восточной Европы".

*(Из предвыборной программы А.Г.Лукашенко.)*

"Несмотря на крайне ограниченные ресурсные возможности Беларуси, у нас успешно реализуется основная задача — поэтапное повышение жизненного уровня народа. Только за 2001 год реальные денежные доходы населения выросли на 25 процентов, а реальная заработная плата — более чем на 30 процентов."

*(Из выступления А.Г.Лукашенко на пленарном заседании постоянно действующего семинара руководящих работников республиканских и местных государственных органов 22 марта 2002 г.)*

"Существенно повысился уровень жизни населения. Реальные денежные доходы граждан увеличились к уровню 2000 года на 25 процентов. Вырос покупательский спрос. Увеличились объемы розничного товарооборота и платных услуг. Динамично развивается наука, образование, здравоохранение и культура".

*(Из послания А.Г.Лукашенко Национальному собранию Республики Беларусь 23 апреля 2002 г.)*

### Мнение председателя Республиканского совета профсоюза работников радиоэлектронной промышленности Г.Ф.Федынича

Более половины белорусских семей в городах, а на селе — каждые пять из шести живут ниже прожиточного минимума. Около 85% всех своих расходов белорусские семьи тратят на продовольствие и коммунальные услуги.

Республика Беларусь с большим отрывом продолжает уверенно лидировать среди всех стран Содружества независимых государств по темпам инфляции. За прошлый год потребительские цены взлетели на 34,8% при прогнозе не более 27%.

Квартплата за прошлый год увеличилась более чем в 5 раз, отопление и горячая вода — почти в 2,5 раза. В целом цены на жилищно-коммунальные услуги выросли почти в 3 раза.

За двухкомнатную квартиру средней семье сегодня надо выложить около 70 тысяч рублей в месяц, за трехкомнатную — более 80. По оценке депутатов Национального собрания уже сейчас граждане Республики Беларусь вынуждены оплачивать 62% стоимости коммунальных расходов, хотя в бюджете на 2003 год записано — не более 50%.

С 15 января т.г. цены на газ для населения снова возросли почти на 35%, тарифы на электроэнергию — на 37%. В очередной раз повысилась оплата за проезд в общественном транспорте.

Повсеместно, во всех регионах страны вводятся платные медицинские услуги, с каждым годом растет число студентов, обучающихся на платной основе. Платные услуги до сих пор не включены в "потребительскую корзинку" и, соответственно, они не принимаются во внимание при решении вопросов о повышении заработной платы, пенсий, стипендий и пособий.

Рост цен и тарифов не сопровождается соответствующим ростом заработной платы. Наоборот, в последнее время правительством и президентом принят ряд решений, направленных на "замораживание" заработной платы в производственной сфере. Это решение о снижении размеров премий с 50 до 30% и надбавок с 30 до 20%, относимых на себестоимость продукции, это отмена механизма корректировки тарифной ставки 1-го разряда на индекс роста потребительских цен и другие.

В результате за январь т.г. средняя заработная плата в промышленности упала на 1,7% при росте цен за этот месяц на 4,3%. В сумме реальное падение доходов составило 6% за один только месяц. И это при том, что уровень заработной платы и так был крайне низким.

При этом правительство заявляет о намерениях повысить возрастную границу ухода на пенсию для женщин до 60 лет, для мужчин — до 63 лет. В то же время продолжительность жизни граждан РБ за последние годы постоянно сокращается. В 1990 году она составляла у женщин 75,6 лет, у мужчин — 66,3 года, в 2001 году снизилась соответственно до 74,5 лет у женщин и до 62,8 лет у мужчин.

Упала рождаемость. Численность населения нашей республики только за прошлый год сократилась на 52 тысячи человек.

Белорусский профсоюз работников радиоэлектронной промышленности неоднократно обращался к правительству с конкретными предложениями, направленными на возрождение отрасли и улучшение экономического положения трудящихся, с предложениями о переносе сроков начисления пени за несвоевременную уплату коммунальных платежей, о недопустимости повышения пенсионного возраста и другими.

К сожалению, большинство предложений остаются без ответа.

**Алесь ДРАБЧУК.**

## А.Лукашэнка задумаў «Чыстае неба»

Падчас нарады з кіруючым складам беларускай арміі ў Баранавічах галоўнакамандуючы Узброенымі сіламі краіны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў прадстаўленую яму задуму комплексных аператыўных вучэнняў УС, якія плануецца правесці ў кастрычніку гэтага года. Яны названы "Чыстае неба".

Манеўры будуць "пабудаваны прыкладна такім чынам, як сёння ідзе вайна ў Іраку, каб супрацьстаяць такой масіраванай атацы з боку магчымага праціўніка", паведаміў журналістам кіраўнік дзяржавы. У вучэннях, згодна з яго задумай, плануецца задзейнічаць каля 80 самалётаў і верталётаў Беларускай арміі. У выніку вучэнняў Узброеныя сілы Беларусі "ўздымуцца яшчэ на адну ступень па аснашчэнні і вывучцы", адзначыў прэзідэнт.

Падчас наведвання 558-га авіярамонтнага завода А.Лукашэнка заявіў аб тым, што зараз у Еўропе няма сіл, жадаючых ваяваць супраць Беларусі. "Ваяваць мы ні з кім не будзем", — сказаў ён і падкрэсліў, што ўся шуміха, узнятая вакол Беларусі і таго, хто стане наступнай мэтай агрэсіі ЗША, развязана для таго, каб пасеяць страх і аказаць уплыў на рэйтынг кіраўнікоў. У гэтай сітуацыі, паводле слоў прэзідэнта, "народ Беларусі можа спакойна адпачываць і працаваць", паколькі ў краіне ёсць людзі, якія гарантуюць бяспеку краіны. А.Лукашэнка адзначыў, што кіраўніцтва дзяржавы падтрымлівае боегатоўнасць Узброеных сіл, і да канца года іх аснашчанасць будзе ўзнята на больш высокі ўзровень.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ,**
**БелаПАН.**

**ГЛАС НАРОДА**

## А вот с администрации, которую мы содержим, как с гуся вода...

Уважаемая редакция!

Пишет Вам коллектив водителей автопарка №19 г.Докшицы. Мы иногда читаем вашу газету, которая пишет правду о нашей реальной жизни, и поэтому решили написать именно вам.

Состояние нашей автобазы, впрочем, как и всей страны, с каждым годом все хуже. Кроме Бегомльской автобазы, у нас есть еще ее филиал в Докшицах. В последние годы выходит так, что здесь работает 8 автобусных маршрутов, в Бегомле — 4. Грузовой парк находится в Докшицах, так как основным заказчиком является ДЭУ-180.

Мы люди простые, без особого образования, но понимаем, что кому-то, видимо, выгодно содержать две "территории" и перегонять автомобили из одного подразделения в другое за 30 км. Директору иногда даже по несколько раз приходится курсировать туда-сюда, это же расход! Руководство, считаем, ведет наш автопарк к краху, мнение коллектива его не интересует. Главный инженер к нам в Докшицы заглядывает всего один-два раза в год, и то на пару минут — видно, чтобы мы не успели обратиться к нему с наболевшими вопросами. Под стать ему экономист: составлял такие расценки, что в районе никто не пользовался нашими грузовиками. Мы неоднократно обращали внимание руководства на то, что у нас по полгода простаивают большегрузные автомобили, которые могут приносить неплохой доход. Однако нам экономист объясняет, что выгоднее, когда они... простаивают. Мы же не понимаем почему. Ведь у частника, арендующего у нас стоянку, автомобили все время в рейсах и приносят прибыль.

Крупных запчастей, таких как двигатель, коробка передач и другие, мы не видели уже несколько лет. Но ведь надо работать, и большинство запчастей мы приобретаем за свой счет. Разве это дело? А вот с администрации, которую мы содержим, все как с гуся вода.

Может быть, кто-то из министерства прочитает это письмо и подскажет докшицким водителям, отработавшим на автобазе по 15—20 лет, встающим в четыре утра и приносящим домой несчастные 100 тысяч рублей, как жить дальше. Не хочется верить, что для тех, от кого зависит наша судьба, главное — сохранить руководящее кресло...

**С уважением —**

**водители АТП-19**
**г.Докшицы.**

## Віцебскія дарожнікі папрацуюць у Выбаргу

Пагроза беспрацоўя часова адступіла ад калектыва Віцебскага дарожна-будаўнічага трэста №1. Гэтае адкрытае акцыянернае таварыства выйграла тэндэр на ўзвядзенне порта ў Выбаргскім раёне Ленінградскай вобласці, што абяцае дарожнікам стабільную работу на працягу бягучага года.

Падрад у Расіі прыйшоўся вельмі дарэчы. Для поўнай загрузкі вытворчай магутнасці трэста дагэтуль аб'ектаў не хапала. І хоць мінулы год арганізацыя завяршыла з прыбыткам, даходы аказаліся такімі сціплымі, што на адну акцыю работнікі трэста змаглі атрымаць толькі 34 рублі дывідэндаў, а сярэдняя зарплата склала 270 тысяч рублёў, што для дарожнікаў з іх цяжкай працай яўна недастаткова.

Будаўніцтва порта ў Выбаргскім раёне дае калектыву надзею на больш прыстойныя заробкі і адпаведныя дывідэнды. Зразумела, што выезды ў Расію і "вахтавы" метад будаўніцтва пацягнуць за сабой дадатковыя страты і нязручнасці, але іншага выйсця ў дарожнікаў няма, бо на радзіме знайсці выгадныя падрады амаль што немагчыма.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Мне всегда страшно на станции метро «Октябрьская»

Движущаяся лестница, не останавливаясь, уносит вверх сотни людей. Такая же лестница сотни приносит вниз. Два переполненных эскалатора разделены простаивающим резервным. Неужели его нельзя включить, чтобы избежать толчеи?

Контролер нехотя нажимает на кнопку связи и докладывает:

— Оля, к тебе пришли.

Вижу молодую, симпатичную девушку в синей метрополитеновской форме. Она никак не отреагировала на мою улыбку. Лицо девушки остается непроницаемым. На мой вопрос о простаивающем резервном эскалаторе, который в час пик должен быть включен на подъем, дежурная по станции спокойным голосом отвечает:

— Девушка, у нас резервный эскалатор работает регулярно в час пик: утром с 6.30 до 10.30 и днем с 15.30 до 19.30.

Вот тебе и на! Я бы ей поверила, если бы сама в час пик постоянно не попадала в чудовищную давку на "Октябрьской". О какой регулярной работе резервного эскалатора может идти речь, если зачастую его просто "забывают" включить?

Мне всегда страшно на тесной, переполненной людьми, неудачно спроектированной станции метро "Октябрьская". Здесь практически ежедневно существует реальная угроза второй "Немиги" или повторения событий 1982 года в московском метрополитене (8 трупов и несколько десятков тяжелораненых). Стоит одному человеку по какой-либо причине упасть, как тут же срабатывает принцип домино. Цепляясь друг за друга, люди падают вниз. Начинается паника. Едва ли удастся обойтись без жертв.



Стоят ли "лишние" часы работы эскалатора человеческих жизней?

**Елена КРЫЛОВА.**
**Фото IREX/ProMedia.**



*Приготовление курицы, международная выставка "Бистро, Пиво, Вина, Напитки", г. Минск, 8 апреля 2003 года. На выставке были представлены пиво, спиртные напитки, оборудование для кафе и ресторанов белорусских, российских, украинских производителей.*

**Фото IREX/ProMedia.**

# Достаточно одной щепотки?

## Интеграция на словах, сепаратизм на деле

Посетив ОАО "Мозырьсоль", премьер Г. Новицкий пообещал гендиректору предприятия М. Литвину подготовить документ, запрещающий ввоз в Беларусь нейодированной украинской соли. Это заявление, а также другие протекционистские меры, предпринятые правительством в последнее время, наводят на интересные размышления.

Думается, никому не надо объяснять, что в основе объединительных процессов, которые сегодня определяют такое явление, как глобализация, лежат экономические, прежде всего, торговые связи.

Исторически первой их формой стала торговля товарами, затем стали торговать транспортными и иными услугами, после — капиталами. Вполне логично все это переросло в хозяйственные связи. Например, европейские купцы, торгующие табаком или чаем, кредитовали владельца плантаций в южных странах или организовывали фактории по скупке пушнины у туземцев, как это делали американцы на Чукотке. На этой основе складывались международные денежные и товарные потоки, благодаря которым к нам и по сию пору приходит разный "колониальный товар" и много всего прочего, созданного не только природой, но и техническим гением человечества.

Подчеркнем, что (хотя торговля с туземцами всегда имела свою специфику) связи эти были взаимовыгодными, поэтому контрагенты старались их поддерживать, а против "нарушителей конвенции" применялись самые суровые меры. Вплоть до объявления войны. После окончания военных действий связи эти, как правило, восстанавливались сами по себе. В Европе, например, они стали восстанавливаться буквально на второй день после завершения самой разрушительной в истории человечества войны. И завершается этот процесс в его современном, "продвинутом" виде в рамках европейской интеграции.

А что происходит у нас, где политики, во-первых, не устают муссировать тему реинтеграции Беларуси и России с учетом опыта Евросоюза, а во-вторых, заявляют о желательности присоединения к нему Украины, и в-третьих, декларируют открытость государственного новообразования для любого, желающего к нему присоединиться государства?

Отвечаем: своим "антисоляным манифестом" Г. Новицкий фактически признал необходимость применения торговых санкций против южной соседки Беларуси. Разумеется, речь идет всего о "щепотке соли", но это тот самый разрыв еще одной из народно-хозяйственных связей, которые сложились в прежние времена.

Следовательно, Украина тоже может ответить, а там (покатился ком с горы!) недалеко и до полного свертывания отношений. Ведь и без того, если верить статистике, зафиксировавшей в прошлом году резкое падение товарооборота, между нашими странами идет необъявленная торговая война.

Дальше — больше. А. Лукашенко, посетив БГУ, заявил, что станет наказывать руководителей, которые отказываются покупать отечественную продукцию, несмотря на то, что она не уступает по цене и качеству импортной. Кто, какой товаровед станет вскрывать факт такого злоупотребления в каждом конкретном случае? И не получится ли так, что наказывать придется руководителя, который покупает, допустим, российский станок, зная, что он лучше белорусского, тем самым поддерживая выгодную для его предприятия "народно-хозяйственную связь", будет за это наказан? Человеком, который ратует на словах за интеграцию, а на деле ликвидирует ее предпосылки.

Почему слова Лукашенко расходятся с делами? Если отвечать на этот вопрос "в общем и целом", то главная причина — в растущем расхождении целей интеграционной политики с реальными интересами и возможностями его собственного режима. Например, СССР в экономическом смысле можно назвать огромным концерном (Ленин говорил об едином тресте), управляемым из центра. Это была супермонополия, которая преследовала в большей степени политические (обеспечение господства номенклатуры, декорированное под задачу построения коммунизма) цели, чем собственно экономические. Львиная доля людских и материальных ресурсов направлялась в военно-промышленный комплекс в ущерб гражданским отраслям. На выходе советский народ имел не товарную массу, которую можно было продать на внутреннем или внешнем рынках, а технику и вооружение, которые накапливались на складах в неимоверных количествах.

Как и всякая монополия, советский "трест" был малоэффективным, не имеющим источников для саморазвития и нуждался во внешней подпитке ресурсами. И, пока людей было "немеряно", этот молох питался практически бесплатным трудом миллионов колхозников и заключенных, после — продажей сырья "загнивающему" Западу. А когда то и другое резко убавилось, лопнула разом и вся затея.

Проще говоря, кончились у Центра деньги, началась экономическая дезинтеграция. Вскоре наступила и политическая смерть — Союз нерушимый развалился. А свобода, ждут ее или нет, всегда приходит нагая: новая реальность ясно указывала, что за все надо платить, а чтобы получать, нужно много и хорошо работать.

В Беларуси экономический сепаратизм уже, вероятно, достиг сельсовесткого уровня. А в областях он существует достаточно давно. В Витебске запрещают к реализации продукцию не витебских предприятий, в Минской — не минских и прочее. А дальше что? Введение собственных региональных денег? Ведь их суррогаты в виде различного рода разрешительно-ограничительных документов уже имеют хождение.

Скверная, разумеется, политика. Незаконная и даже антигосударственная, разрушающая целостность экономического пространства страны. Но ведь местные бюджеты формируются за счет поступлений от местных предприятий. Иных каналов нет. А жить-то хочется. Здесь и сейчас. Именно благодаря этому естественному желанию Лукашенко политический интегратор Лукашенко поступает как экономический сепаратист.

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

ПУЛЬС

## «Нацыянальны атлас земляў Беларусі»

Упершыню выдадзены "Нацыянальны атлас земляў Беларусі" — гэта навукова-інфармацыйны твор, які прадстаўляе ўсе галіны жыцця Беларусі — ад геаграфічнага палажэння да міжнародных сувязей.

Сёлета мяркуецца падрыхтаваць камп'ютэрную версію выдання, а таксама выпусціць яго трохтомны варыянт для шырокай публікі. У першы том будуць уключаны матэрыялы па айчыннай навуцы, гісторыі і спорце, у другі — прамысловасці, сельскай гаспадарцы і транспарце, у трэці — па сацыяльных пытаннях.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Пакончылі з воўчай зграяй

Каля месяца спатрэбілася паляўнічым Талачынскага раёна, каб высачыць і знішчыць вялікую зграю ваўкоў, якія нахабна гаспадарылі ў мясцовых лясах, а часам наведваліся на калгасныя фермы і нават у вёскі.

Паляўнічым удалося ўзяць у аблогу і здабыць 12 ваўкоў, сярод якіх былі дзве ваўчыцы і два мацёрых самцы.

Шэрыя драпежнікі паводзілі сябе вельмі хітра. Нібыта ведаючы, што за імі сочаць, яны пастаянна мянялі "дыслакацыю", пераходзячы з Талачынскага раёна ў Сенненскі, а з апошняга — у Чашніцкі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Дырэктар тэхнікума выдавала незаконныя дыпломы

У дачыненні да дырэктара мінскага тэхнікума эканомікі, права і кіравання ўзбуджана крымінальная справа.

Ведаючы пра адсутнасць у тэхнікума ліцэнзіі на арганізацыю спецыяльнасці "правазнаўства", дырэктар займалася незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасцю, якая выразілася ў прыёме вучняў на гэтую спецыяльнасць і збіранні платы за навучанне.

Для атрымання даходу ад незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці, утойванні незаконнага навучання па спецыяльнасці "правазнаўства" і стварэння бачнасці належнага выканання сваіх абавязкаў дырэктар незаконна выдала 40 дыпломаў дзяржаўнага ўзору навучэнцам тэхнікума, якія праходзілі навучанне па гэтай спецыяльнасці ў 2000—2002 гадах.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## У Баранавічах павялічылася колькасць праблемных сем'яў

За першы квартал гэтага года ў Баранавічах у 2,5 раза ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага павялічылася колькасць праблемных сем'яў.

Адбіваецца цяжкае сацыяльнае і матэрыяльнае становішча сем'яў. Бацькі пачынаюць піць, а дзеці застаюцца без нагляду".

У выніку такіх паводзін бацькоў узрасло п'янства і сярод дзяцей. Прычым большасць правапарушэнняў, якія ўчыняюць падлеткі, робяцца імі ў нецвярозым стане.

Правапарушэнні часцей сталі ўчыняць дзяўчынкі. Колькасць непаўналетніх правапарушальніц павялічылася ў параўнанні з мінулым годам на 11 чалавек, у той час як колькасць правапарушальнікаў-хлопчыкаў зменшылася са 157 да 128 чалавек.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ, БелаПАН.**

# На произвол судьбы

## брошены в Бобруйске служители Фемиды

Здание Бобруйского суда было простроено в 1976 году. Рассчитано оно на городской и районный суды, в которых в те времена работало шесть судей и двадцать технических работников. Но наша жизнь не стоит на месте. После административного деления города на два района, увеличилось и число судов. В настоящее время в одном здании функционируют три суда — Ленинский, Первомайский и Бобруйского района. В обычное помещение "втиснули" 25 судей и почти 100 технических работников. Представьте себе: в здании суда нет даже совещательных комнат. Ими служат кабинеты судей. Как правило, в них рассматриваются и гражданские дела.

В коридорах судов нет ни одного стола для граждан, за которыми они могли бы ознакомиться с материалами дела, составить тот или иной документ. Посетители вынуждены оформлять документы на стенах в коридорах, на подоконниках.

С декабря 2002 года здание суда покинули работники Бобруйского объединения "Охрана" (у Управления юстиции Могилевского облисполкома нет средств на содержание охраны в судах), в функциональные обязанности которых входило не только поддержание порядка в судах, но и разъяснение гражданам многих вопросов. В настоящее время эту функцию выполняют те судьи, кабинеты которых расположены на первом этаже.

В полдень кабинеты служителей Фемиды закрываются на ключ изнутри и коридоры наполняются различными запахами: в суде обедают. То есть в бобруйских судах нет специальных комнат для отдыха и приема пищи.

В мужском туалете — три унитаза. Два из них сломаны и не работают еще с советских времен. А с женским туалетом ситуация еще хуже: он открыт для всех посетителей. Фактически он стал городским общественным туалетом. После многих лет такой вот эксплуатации вид у него соответствующий. Требуется неженская сила духа, чтобы войти в него.

У многих судей телефоны спаренные, да и те периодически отключаются за неуплату.

Еще одна проблема последних лет — отопление здания суда. Если на улице нулевая температура, то в правом крыле суда — 8—12 градусов тепла. В левом крыле здания — положение еще хуже. Каждый решает эту проблему по-своему: кто-то ставит под стул обогреватель, кто-то — надевает под мантию кожух. Но это все равно не решает проблему холода. Работники болеют, были случаи, когда "скорая помощь" увозила некоторых из них в тяжелом состоянии в больницу — прямо из здания суда.

На неоднократные жалобы в Министерство юстиции Республики Беларусь положительных ответов работники судов так и не дождались. А ведь на судей тоже распространяется законодательство о труде, которое обязывает нанимателя создавать работнику здоровые и безопасные условия труда. Сам собой напрашивается вывод, что бобруйские судьи, как ни парадоксально это прозвучит, брошены государством на произвол судьбы.

**Евгений ЧЕПУРЫШКИН, председатель Бобруйского отделения РО "Белорусский Хельсинкский комитет".**

## Конституционный суд меняет практику применения Закона об амнистии

В конце прошлого года Конституционный суд по обращению осужденных и их адвокатов рассмотрел вопрос, связанный с порядком применения отдельных статей Закона от 15 июля 2002 г. "Об амнистии некоторых категорий лиц, совершивших преступления".

В обращениях речь шла о том, чтобы на основании нормы статьи 9 указанного Закона снижался срок лишения свободы на один год независимо от категории совершенного преступления. На практике применение этой нормы (снижение срока наказания на один год) ставилось в зависимости от времени вынесения приговора — до или после вступления в силу Закона об амнистии: срок наказания уменьшался на один год, если приговор вынесен до вступления в силу Закона.

Например, два лица в один и тот же день совершили преступления, и уголовные дела в отношении их были возбуждены в одно и то же время, но в отношении одного приговор был вынесен до вступления в силу Закона, а в отношении другого — после. Согласно сложившейся практике, право на снижение срока лишения свободы на один год получало лицо лишь в первом случае, когда приговор вынесен до вступления Закона в силу.

Конституционный суд проанализировал положения названного Закона (в частности, стст. 9, 12, 22 и др.) и пришел к выводу, что следование практике применения Закона "Об амнистии", сформированной разъяснением Верховного суда (письмо от 24 июля 2002 г.), создает неравное положение среди лиц, совершивших преступления до дня вступления этого Закона в силу.

В результате обращения Конституционного суда в Палату представителей и внимательного изучения заинтересованными инстанциями аргументов Конституционного суда принято решение изменить ранее сформированную практику и освобождать осужденных от наказания частично сроком на один год и в том случае, если приговор вынесен после вступления в силу Закона "Об амнистии" (но при условии, конечно, что преступление совершено до его вступления в силу).

По имеющимся данным, на содержание одного лица в местах лишения свободы государство тратит в год 1,2 млн. рублей. Новый подход позволяет применить закон по отношению к более чем двум тысячам осужденных. Экономия для бюджета составит в год, таким образом, более одного млн. долларов, а осужденные получат шанс скорее выйти на свободу и реабилитировать себя перед обществом.

Указанный подход при применении соответствующих положений Закона "Об амнистии" с учетом достаточно суровых мер наказания, предусмотренных в Уголовном кодексе, является свидетельством справедливого разрешения данной проблемы.

ПАМЯЦЬ

# Не, патрыёты не паміраюць!

**5 красавіка родныя, сябры, суседзі развіталіся з дарагім чалавекам — Алегам Іванавічам ТАБОЛАМ. Чалавекам, які быў сапраўдным грамадзянінам і патрыётам.**



У яго лёсе, як у люстэрку, адлюстравалася трагедыя нашай краіны. Дзяцінства і юнацтва Алега прыпалі на час, калі ішоў гвалтоўны вывӑз сялян на Поўнач і ў Сібір, адбываліся масавыя расстрэлы нявінных людзей. Хутка — другая сусветная вайна, пасля — зноў тыя ж пакуты, той жа ГУЛАГ.

Ці мог маўчаць і скарыцца такому гвалту бальшавіцкай улады разумны, годны юнак Алег Табола? Не! Навучэнец Глыбоцкай педвучэльні, ён разам з аднадумцамі ўступае ў Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП) — маладзёжную арганізацыю, якая ўзнікла ў 1945 годзе ў Глыбокім і Паставах.

Мэтай СБП было гуртаваць лепшую частку моладзі, ісці ў народ і прапагандаваць беларускую мову, адстойваць адкрыццё беларускіх школ, падымаць нацыянальную свядомасць беларусаў. Алег Іванавіч прыняў тады перад сябрамі прысягу на адданӑсць Беларусі. Гэтай прысязе ён быў верны да апошняга дня.

За любоў да Радзімы Алег Табола прыняў вялікія пакуты. Усе яны, патрыёты-летуценнікі, былі жорстка пакараны: у прысудах ім была смяротная кара і асуджэнне на зняволенне тэрмінамі ад 3 да 25 гадоў. Алегу, на той час непаўналетняму, далі 8 гадоў. На допытах яго даводзілі да страты прытомнасці.

Пасля вызвалення з ГУЛАГу Алегу Іванавічу ўлады не дазволілі жыць на радзіме, і ён вымушаны быў паехаць у Эстонію. "Нацыяналіст"... І ўсе дарогі патрыёту былі закрыты. Ён так і не змог атрымаць, як марыў, настаўніцкі дыплом, працаваць па спецыяльнасці, якую жадаў набыць. Але ён не згубіў душэўную прыгажосць і багацце. Гэтага ў яго ніхто не змог адняць.

Каб засталася праўда, каб засталася памяць па нявінна загінуўшых ахвярах бальшавізму, Алег Іванавіч пасля вяртання ў Беларусь усе гады, што былі адпушчаны яму Богам, шмат працаваў: адшукваў сваіх жывых і мёртвых братоў і сясцёр па пакутах у ГУЛАГу, збіраў успаміны. Ён уваскрашаў нядаўнюю гісторыю, аберагаў яе, каб не стапталі пустадомкі. Ён бязмерна любіў Беларусь, яе людзей, яе зямлю.

Яго сэрца, душа былі перапоўнены дабрынёй і святлом. І нам, яго сябрам, было вельмі ўтульна побач з ім: ён кожнаму імкнуўся дапамагчы, падтрымаць, абагрэць душэўным словам, развесяліць дасціпным жартам, пачаставаць мядком ад уласных пчол. І ўсёй душой радаваўся, калі камусьці рабілася лягчэй і радасней на сэрцы.

Ён сам быў прыгожы і сэрцам, і знешнасцю, наш дарагі, незабыўны сябра. Ён сеяў вакол сябе дабро, і яно не прападзе бясследна.

Дзякуй табе, Алег Іванавіч, што ты жыў сярод нас, што жыў дзеля Беларусі. Яна можа ганарыцца такім сынам! А мы, хто быў побач, не забудзем цябе.

**Зінаіда ТАРАСЕВІЧ, прэзідэнт ГА "Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій".**

ЗАКУЛІССЕ

# Чыноўнікі прагнуць мовы?

*Некаторыя высокапастаўленыя чыноўнікі пачалі актыўна вывучаць беларускую мову. Кажуць, што ў недалёкай будучыні асобныя з іх нават збіраюцца ініцыяваць правядзенне аднаго з пасяджэнняў Савета міністраў на роднай мове.*

Па словах прэс-сакратара прэм'ер-міністра **Івана Знаткевіча,** саўмінаўскія нарады заўсёды адбываліся толькі на рускай мове. Так было і пры **Сяргею Лінгу**, і пры **Уладзіміру Ярмошыну**. Так ёсць і пры **Генадзю Навіцкім**.

Дарэчы, Генадзь Васільевіч раз-пораз ужывае беларускія словы, аднак цалкам беларускай прамовы ад яго ніхто ніколі не чуў. Хаця кажуць, што ў школе па роднай мове ў прэм'ера было выдатна.

**Сяргею Лінгу** пра тое, што існуе беларуская мова, заўсёды нагадваў яго прэс-сакратар. Сяргей Сцяпанавіч, разумеючы, што прэм'ер-міністр павінен размаўляць на роднай мове, паслухмяна пераходзіў на яе. Аднак, улічваючы небагаты слоўнікавы запас і адсутнасць моўнай практыкі, праз некалькі сказаў пачынаў блытацца і вымушаны быў пераходзіць на рускую.

Беларускую мову з вуснаў цяперашняга гендырэктара прадстаўніцтва кампаніі "МТС" на Беларусі **Уладзіміра Ярмошына** можна было пачуць толькі ў той перыяд, калі ад усіх жорстка патрабавалі пераходзіць на яе (практычна адразу пасля прыняцця "Закона аб мове"). Тады Ярмошыну нават падабалася размаўляць на мове Купалы і Багдановіча. *"І ў Мінгарвыканкаме ў маю бытнасць старшынёй на розных нарадах многія чыноўнікі даволі часта выступалі на беларускай мове,* — узгадвае Уладзімір Васільевіч. — *Гэта ніколі не асуджалася, наадварот, толькі віталася".*

Былы прэм'ер-міністр не змог адказаць на пытанне, ці памятае ён прозвішчы тых чыноўнікаў, якія на пасяджэннях Саўміна намагаліся гаварыць па-беларуску. *"Не гатовы адказаць. Даволі нечаканае пытанне,* — прызнаўся Ярмошын. — *Я даўно выйшаў з таго асяродку, можа, таму пра многае забыўся... Памятаю, што былы міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, асабліва калі апанент звяртаўся да яго на беларускай мове, заўсёды дастойна адказваў. Дарэчы, Сасноўскі, здаецца, адзіны з міністраў, хто штодзень размаўляў па-беларуску".*

Між іншым, не толькі Сасноўскі, але і многія іншыя высокапастаўленыя асобы добра ведаюць беларускую мову, але чамусьці не гавораць на ёй кожны дзень. Так, напрыклад, віцэ-прэм'ер **Уладзімір Дражын**, працуючы ў Нясвіжы, доўгі час размаўляў выключна на беларускай мове. Сёння кожнае сваё выступленне на мове Уладзімір Несцеравіч старанна рыхтуе, адпрацоўвае правільнае вымаўленне, націскі. Прыкладна за паўгадзіны перад выхадам на публіку нават пераказвае некаторыя ўрыўкі са свайго даклада ўслых, акцэнтуючы ўвагу на найбольш цяжкіх словах. Здаецца, у яго ёсць усе магчымасці падаваць прыклад іншым, штодзень размаўляючы на беларускай мове.

Міністр адукацыі **Пётр Брыгадзін** і старшыня Камітэта Дзяржаўнага кантролю **Анатоль Тозік** беларускую мову старанна вывучалі ў школе, затым — у Белдзяржуніверсітэце. Але і Пётр Іванавіч, і Анатоль Афанасьевіч пераходзяць на мову толькі ў тых выпадках, калі суразмоўца звяртаецца да іх па-беларуску. Перавагу ў публічных выступленнях абодва ўсё ж такі аддаюць рускай.

Міністра адукацыі аднойчы спыталі, чаму ён свае прэс-канферэнцыі праводзіць па-руску. Пётр Іванавіч сказаў, што крытыку прымае і на наступнай сустрэчы з журналістамі будзе гаварыць па-беларуску. Як паказаў час, гэта было толькі абяцанне...

Міністр культуры **Леанід Гуляка**, у адрозненне ад свайго папярэдніка **Аляксандра Сасноўскага**, на публіцы на беларускай мове размаўляе даволі рэдка. У міністэрстве таксама. Але калі трэба, Леанід Паўлавіч можа гаварыць на роднай мове без памылак.

Яшчэ ў бытнасць міністрам унутраных спраў з рэпетытарам вывучаў беларускую мову цяперашні міністр спорту **Юрый Сівакоў.** Дарэчы, некалькі тыдняў таму на адной з апаратных нарад Сівакоў распарадзіўся, каб у газеце "Спартыўная панарама" цяпер палова матэрыялаў друкавалася на беларускай мове. Раней "Спартыўная панарама" выдавалася толькі на рускай мове.

Старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў** лічыць, што большасць нашых чыноўнікаў мову ведае. І даволі добра. А не размаўляюць на ёй таму, што няма адпаведнага загаду.

"Многія дзяржаўныя чыноўнікі, з якімі я сустракаўся, як правіла, размаўляюць па-беларуску, — гаворыць Алег Анатольевіч. — Ці стараюцца гэта рабіць. Іншая справа, што гутарковая мова ў іх слабаватая, бо яны рэдка ёю карыстаюцца. Аднак усё разумеюць, чытаюць беларускамоўныя тэксты. Я б сказаў, што чынавенства валодае беларускай мовай недзе на тры з плюсам. Хаця ёсць выключэнні. Напрыклад, міністр інфармацыі **Міхаіл Падгайны.** Ды той жа кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Урал Латыпаў** адносна някепска гаворыць на беларускай мове. Горш за ўсё, па маіх назіраннях, беларуская мова ў чыноўнікаў сярэдняга звяна.

Канешне, калі дзяржаўныя асобы выкажуць жаданне, Таварыства беларускай мовы можа наладзіць для іх спецыяльныя заняткі па вывучэнні мовы. Праблем няма. Аднак мне падаецца, што чыноўнікі будуць іх наведваць, толькі калі атрымаюць адпаведны загад.

Беларус заўжды размаўляе на мове начальства. Гэта, калі хочаце, генетычны код. Калі я працаваў ва універсітэце культуры дэканам, мае падначаленыя літаральна за месяц перайшлі на беларускую мову. Хаця я іх не прымушаў і ніякіх загадаў не падпісваў. Проста ўвесь час размаўляў з імі толькі па-беларуску.

Гісторыя паказвае: калі Беларусь была ўзурпавана палякамі, беларусы гаварылі па-польску. За гады нямецкай акупацыі многія нармальна авалодалі нямецкай мовай. Мы займаліся гэтым даследаваннем і прыйшлі да высновы, што беларусы — вельмі здольныя да іншых моў, бо яны заўжды жылі ў шматмоўнай краіне. І беларусу вывучыць любую замежную мову значна прасцей, чым, скажам, расейцу.

Праблема з беларускай мовай зараз не столькі лінгвістычная, колькі палітычная. Як толькі да ўлады прыйдзе прэзідэнт, які будзе размаўляць па-беларуску, пытанне з мовай будзе вырашана на працягу двух год. Аўтаматычна. Тады чыноўнікі пойдуць на курсы. І дзень і ноч будуць вучыць мову, каб застацца на пасадах".

### *Аляксандр САСНОЎСКІ:* «Колькі моваў ты ведаеш, столькі разоў ты чалавек»



"У сталым узросце я ніколі не вывучаў беларускую мову спецыяльна, бо скончыў школу з беларускай мовай навучання, — гаворыць былы міністр культуры **Аляксандр Сасноўскі.** — Беларуская мова для мяне з маленства была натуральная. Дарэчы, як і руская.

Зараз я ніколі не заўважаю, на якой мове чытаю газеты, кнігі. Пераход з рускай мовы на беларускую (ці наадварот) для мяне не складае ніякіх цяжкасцяў.

На мой погляд, не самае галоўнае, на якой мове ты будзеш гаварыць. Сам факт, што ты валодаеш нейкай мовай, дае табе абсалютна іншае светаадчуванне. У свой час рымляне казалі так: ***колькі моваў ты ведаеш, столькі разоў ты і чалавек.*** Я з імі цалкам згодны".

**Марына КОКТЫШ.**

## БНФ у Віцебску: «Трэба крочыць у народ!»

"Неабходна перайсці ад мітынгаў і пікетаванняў да канкрэтных сацыяльных акцый, каб падчас наступных выбарчых кампаній людзі галасавалі за нашых кандыдатаў толькі за іх прыналежнасць да БНФ".

Гэтыя словы з імпэтам прагучалі на справаздачна-выбарчым сходзе Віцебскай гарадской арганізацыі Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэнне" і Партыі БНФ, які абраў новае кіраўніцтва і вызначыў накірунак далейшай дзейнасці згаданых структур.

Прызнаўшы малаэфектыўнасць работы партыі, сход зрабіў стаўку на новае пакаленне сяброў партыі. У выніку старшынёй мясцовай арганізацыі БНФ стаў лідэр яе маладзёвага крыла Віктар Шляхцін.

Ад імя многіх маладых сяброў ГА БНФ Шляхцін заявіў на сходзе, што партыя павінна жыць клопатамі простых людзей, а кожны сябар БНФ мусіць стаць свайго роду дэпутатам па месцы жыхарства, імкнуцца вырашаць праблемы насельніцтва, аказваць людзям рэальную дапамогу. Што і казаць, правільная пазіцыя!

Пакуль жа адзін толькі напамін пра БНФ дзейнічае на простых людзей, як чырвоная ануча на быка. Ды што там БНФ! У час нядаўніх выбараў прыхільнікі кандыдатаў ад улады лёгка "завалілі" прадстаўніцу дэмакратычных колаў, паведаміўшы ва ўлётках, раскіданых у мікрараёне, што іх канкурэнтка мае адносіны да апазіцыі прэзідэнту.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

ПАМЯЦЬ

# «Жывая я яшчэ сярод жывых...»

*Прарочыя словы! Дваццаць год ужо няма сярод нас вялікай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, а яе імя, яе слова, яе душа жывыя і ўзнімающца ўсё вышэй*

Кола сяброў і прыхільнікаў творчасці слыннай дачкі Беларусі сабралася ў сталічным Доме літаратара на вечарыне яе памяці. У зале было шмат моладзі, якая прыйшла ў гэты свет пасля таго, як Ларысы Антонаўны не стала. Але юначыя сэрцы цягнуцца да спеўнай, напоенай сокамі роднай зямлі, адухоўленай высокай любоўю паэзіі. Ім цікава, якой была ў жыцці гэтая незвычайная, мужная і пяшчотная жанчына, чыю сілу духу, талент і няўхільнасць мары аб вольнай, незалежнай Беларусі не зламалі неверагодныя пакуты і выпрабаванні.

...Народжаная спявацargument, яна стала вязніцай савецкага ГУЛАГа. У яе вырвалі з рук пяро, далі замест яго кірку і кайло. Яна аплаквала гібель сяброў па няволі і сама не раз глядзела ў вочы смерці. Але знаходзіла сілы не толькі захаваць у сабе чалавека, а і падтрымліваць, ратаваць іншых. Яе дабрыня, яе з сэрца ідучае паэтычнае слова неслі жыццё, вярталі веру знясіленым і зняверaным. Яе ж духоўным посахам была — і тады, і кожную хвілю на доўгім цярністым шляху — Бацькаўшчына, любы прынёманскі край. Туды ляцела яна збалелай душой, да землякоў звярталася з-пад штыка, з дарогі, "калючым аплеценай дротам":

*Я з вамі ў няволі, я з вамі усцяж*
*У смелых сваіх летуценнях,*
*Я з вамі у кожнай гадзіне жыцця,*
*У кожнай мінуце цярпення.*


*Такой паўстае маладая паэтка на палатне "Ваша Ларыса Геніюш" Аляксея Марачкіна.*

Аб лёсе паэткі — лёсе нескаронай душы ў цісках таталітарнага рэжыму, аб тым, як ёй жылося пасля вяртання на радзіму, распавядалі на вечарыне тыя, каму пашчасціла ведаць Ларысу Антонаўну, сустракацца з ёю. З цікавымі ўспамінамі-роздумамі выступілі прыехаўшыя з Гродна паэтка Данута Бічэль-Загнетава, наша госця з Вільні — колішняя беларуская студэнтка Таццяна Сапач, літаратар Міхась Скобла і іншыя. І мы нібыта бачылі стары дамок у гарадку Зэльве, дзе, пад пільным вокам КДБ і мясцовых стукачоў, дажывалі свой век Ларыса Антонаўна і яе муж Іван Пятровіч.

Няволя, толькі ў іншай форме, працягвалася. Няволя нагляду, няволя бязлітаснай цэнзуры. Тое галоўнае, чым яна жыла, што насіла ў сэрцы, — ідэя нацыянальнай незалежнасці, бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня — усё гэта выкрэслівалася жорсткай рукой ідэалагічных "пастыраў". Яшчэ б: гэтая ўпартая, нязломная жанчына лічыла сябе грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі! А савецкага грамадзянства так і не прыняла. І ці не таму, хаця і вернутая з ГУЛАГу, яна не была рэабілітавана той уладай, якая на доўгія годы кідала яе ў гібельнае пекла?

Не, ціхага "дажывання" не атрымалася, ды яна і не імкнулася да яго. Дамок у маленькім, засаджаным кветкамі гародчыку стаў месцам паломніцтва тагачаснай інтэлігенцыі, студэнцтва, у якіх абуджаўся нацыянальны адраджэнцкі дух. Гасцінная гаспадыня радавалася кожнаму, ад душы частавала сціплымі прысмакамі, свежаспечаным хлебам. А разам з ім з печы, як жартавала сама, даставала і новыя вершы, якімі шчодра адорвала наведвальнікаў.

У любых варунках, у любы час яна, сама сатканая з паэзіі, выпраменьвала яе ўсёй сваёй істотай: "брала" вершы з роднага паветра, чэрпала "невадам з Нёмана", вырошчвала з кветкамі ў сваім гародчыку. І лірычныя, і поклічныя, і гнеўныя. Нездарма так цягнуўся да яе другі волат сучаснага беларускага Адраджэння Уладзімір Караткевіч, якому Ларыса Антонаўна прысвяціла глыбокія радкі:

*Толькі ведаю: ў хмарнае сёння*
*Ці ў няведамы заўтрашні час*
*Не разжалішся ты, не застогнеш,*
*Не адкінеш з далоняў мяча...*

Падаецца: не толькі з адрасатам, а і з намі, сённяшнімі, размаўляе вялікая патрыётка. Нам завяшчае сваю адданасць Беларусі, сваю мужнасць годна жыць дзеля яе, насіць у сваёй душы. Гэтым пачуццём была прасякнута размова на вечарыне пра духоўную Маці Беларусі. Як і яе трапяткія вершы ў вуснах выхаванцаў рэжысёра Валерыя Мазынскага, і песні барда Пятра Русава, і выява аблічча акрыленай паэткі работы скульптара Міхася Інькова.

На жаль (але не дзіўна), зэльвенскія ўлады ўсё ніяк не адважацца даць згоду на ўстаноўку бюста Ларысы Геніюш на яе магіле. Як сталічныя ўлады не адважваюцца шырока і прыгожа ўшанаваць яе памяць. Хіба не сорам, што дзеля вечарыны ў Доме літаратара, які зараз належыць зусім не літаратарам, а Упраўленню справамі прэзідэнта, грамадскія аб'яднанні Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і культурніцкая камісія Партыі БНФ ускладкі збіралі грошы на аплату арэнды залы?

Але, верыцца, не за гарамі той час, калі самыя вялікія і прэстыжныя залы краіны адчыняць дзверы для высокай паэзіі, якой і зараз поўныя сэрцы многіх нашых суайчыннікаў. І загучыць наўсцяж, над апетай паэткай зямлёй яе чараўнічы, ласкавы голас (мы чулі яго запіс на вечарыне), яе споведзь, што "ёсць край адзін пад прамяністым небам, засланы снежнабелым туманом", чыя ўзорыстая, быццам вытканая на кроснах краса трапляе проста ў сэрца. І што гэты край — "мой цэлы, цэлы свет!".

Так і захацелася пасля вечарыны ўзяць хутчэй у рукі томік паэткі, што я і зрабіла, вярнуўшыся дадому.

***

Дзень памяці Ларысы Геніюш быў адзначаны паніхідай ў Петрапаўлаўскім саборы ў Мінску, монаспектаклем у тэатры "Зьніч" Галіны Дзягілевай, паэтычнымі сустрэчамі ў бібліятэках сталіцы і Гродзеншчыны.

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**

## Як трапіць у «каморку»

На мінскіх вуліцах апошнім часам з'явіліся нейкія зялёныя скрыні з надпісам "Чистый город". Гэта біяпрыбіральні.

Ты глядзіш па баках у пошуках выратавальнай "каморкі патрэбнай" (так называлі прыбіральню нашы продкі ў часы Вялікага княства Літоўскага). Дзякуй Богу, доўга шукаць не даводзіцца: зялёны колер адразу выдае месцазнаходжанне біяпрыбіральні.

Ты, ледзь трываючы, далятаеш да яе і бачыш на дзвярах надпіс: "Опустите жетон".

"Каб вас халера!" — у думках лаешся ты, а сам ужо шукаеш бліжэйшы шапік "Белсаюздруку", каб купіць гэты жаданы зялёны жэтончык. Добра, калі ты хутка знойдзеш шапік, вытрываеш чаргу, зноў дабяжыш да прыбіральні. Добра, калі яна будзе незанятая.

А калі — не?

Прапанова: калі паставілі ў горадзе туалеты, дык прадавайце жэтоны не толькі ў шапіках, але і ў кожным магазіне.

**Зміцер ЛАДЗЕС.**

## Беларускія тэнісісты сустрэнуцца з камандай Германіі

Міжнародная тэнісная федэрацыя (ITF) правяла жараб'ёўку кваліфікацыйнага раунда Сусветнай групы Кубка Дэвіса. 19-21 верасня зборная Беларусі сустрэнецца ў гасцях з камандай Германіі.

У інтэрв'ю БелаПАН капітан беларускай каманды Сяргей Цяцерын назваў жараб'ёўку не надта ўдалай. "З васьмі каманд, якія выйшлі ў кваліфікацыйны раунд Сусветнай групы з рэгіянальных зон, толькі мы і Індыя гуляем у гасцях. Астатнія — Аўстрыя, Канада, Тайланд, Марока, Эквадор і Славакія — прымаюць няўдачнікаў першага асноўнага раунда Сусветнай групы ў сябе дома. Зрэшты, Германія — гэта не самы горшы варыянт, нават на корце саперніка. З хлопцамі я ўжо размаўляў, яны настроены па-баявому", — сказаў С.Цяцерын.

У кваліфікацыйны раунд Сусветнай групы зборная Беларусі выйшла дзякуючы перамозе над камандай Зімбабве (4:1) у матчы другога круга I групы Еўра-афрыканскай зоны 4-6 красавіка.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**



# Крыжаванка з чайнвордам

**Па гарызанталі:** 13.Інфекцыйная хвароба. 14.Дасканаласць, умельства. 15.Дзяржава ў Заходняй Азіі. 16.Сэнс. 18.Любіцель. 20.Частка сушы, якая вострым вуглом выходзіць у мора. 21.Рабаўладальнік. 25.Аднагадовая або шматгадовая расліна сямейства бабовых. 27.Электрод з дадатным зарадам. 29.Хвароба раслін, пры якой ненатуральна разрастаюцца тканкі, утвараючы нарасці рознай формы. 30.Учынак, падзея. 31.У хрысціянскай царкве — грабніца, у якой захоўваюцца мошчы святых. 32.Прылада для клеймавання жывёлы. 34.Асобнае зерне круп. 37.Поле, пакінутае на адно лета незасеяным з мэтай паляпшэння глебы пад пасеў азімых. 38.Гурт, група людзей. 40.Род шматгадовых траў і кустоў сям'і крапіўных. 41.Сякучая і калючая халодная зброя з выгнутым лязом, распаўсюджаная ў народаў Блізкага і Сярэдняга Усходу. 42.Служба кантролю якасці прадукцыі. 43.Памылка ў пісьмовым тэксце. 44.Грошы, якія выдаюцца наперад у лік зарплаты. 46.Тэатралізаванае выступленне. 47.Асобная вобласць якой-небудзь навукі, вытворчасці. 48.Працаўніца па шаблоне. 49.Рака індусаў. 51.Адна партыя ў сустрэчы тэнісістаў. 52.Нахіленая пляцоўка каля ўваходу ў будынак, якая замяняе лесвіцу. 54.У царскай Расіі — выхавальнік Пажскага корпуса. 56.Форменная аднабортная куртка са стаячым каўняром. 58.Няезджаная, няходжаная прастора, звычайна снежная. 59.Невялікая сякера. 63.Жвачка. 65.Судавая рабочая і вучэбная весельна-парусная шлюпка. 66.Лёгкі абутак для спорту з празіненай тканіны на мяккай рабрыстай гумовай падэшве. 67.Вулкан на востраве Мінданао. 69.Адна сотая гектара. 71.Бессаромная жанчына. 76.Адсутнасць сродкаў для жыцця. 78.Цыгара. 80.Хлусня. 81.Пачатак світання. 82.Струменьчык чаго-небудзь вадкага на якой-небудзь паверхні.

**Па вертыкалі:** 2.Апрацоўка пры дапамозе прэса. 3.Самец сёмгі ў перыяд нерасту. 4.Негустое, скразное вязанне. 5.Група цыганскіх сем'яў, якія качуюць разам. 6.Песня. 7.Вузкая палоска. 9.Норма, у межах якой дазволена карыстацца чым-небудзь. 10.Моцны спіртавы напітак, прыгатаваны ў Паўднёвай Азіі з рысу або соку пальмы. 11.Адзінка вымярэння магутнасці электрычнага току. 12.Пісанне ікон як від рэлігійнага жывапісу. 16.Вадасцёк. 17.Верхняя частка галоўкі калоны, звычайна ў форме чатырохвугольнай пліты. 18.Кулямётчыца ў атрадзе Чапаева. 19.Манера пісьма, почырк. 20.Куль. 22.Мера зямельнай плошчы ў Англіі. 23.Прылада для капання зямлі. 24.Званне духоўнай асобы. 26.Вялікая сціпта саломы, складзеная асобым спосабам для захоўвання пад адкрытым небам. 28.Вучань, які застаўся на другі год у тым самым класе. 31.Занятак фурмана наёмнага экіпажа. 33.Горад на рацэ Опава. 35.Баявы вокліч у час атакі. 36.Звяртанне да суда з патрабаваннем аб абароне грамадзянскіх правоў. 37.Паша. 39.Прадстаўнік першых гісторыкаў, якія тлумачылі рымскія падзеі пагадова. 40.Зацягнуты сеткай абруч авальнай формы з дзяржаннем для гульні ў тэніс. 45.Садружнасць незалежных дзяржаў. 46.Перадача мяча іграку сваёй каманды. 50.Сталая жанчына, звычайна замужняя. 53.Паліва. 54.Ахапак аднародных прадметаў. 55.Тое, што і жыраванне. 57.Дугападобны паварот ракі. 58.Выклічнік, які ўжываецца гукапераймальна для абазначэння брэху сабачаняці. 59.Хімічны элемент. 60.Ежа. 61.Правы прыток Енісея. 62.У старажытнаегіпецкай міфалогіі свяшчэнны бык. 64.Даўгахвосты папугай. 66.Плод капусты. 68.Дробныя кавалачкі саломы, каласоў, мякіны, што абмятаюцца з зерня ў час малацьбы. 70.Аправа для ўстаўкі ў яе карцін, партрэтаў. 71.Памяшканне паміж жылой часткай дома і ганкам у вясковых хатах. 72.Мара. 73.Лесвіца на караблі. 74.Цвёрды мінерал, які складаецца са слаёў рознай афарбоўкі. 75.Ашуканец, жулік. 77.Невялікая адтуліна, праз якую можна пранікнуць куды-небудзь. 79.Бясхвостае земнаводнае з сям'і жаб.

**Па гарызанталі і дузе:** 1.Разлічэнне з даўгамі. 8.Ялавая карова. 83.Уходзіны. 84.Грузіла.

**Чайнворд:** 85.Першая частка складанаскарочаных слоў, якая адпавядае слову "аграномічны". 86.Перапончатакрылае насякомае з джалам. 87.Прадстаўнік плямён, якія гаварылі на мовах семітычнай сістэмы, вядомых у старажытныя часы ў Сірыі і Месапатаміі. 88.Агароднінная расліна сямейства лілейных з ядомымі трубчатымі лістамі. 89.Працавітая дзяўчына са знакамітай беларускай песні.

**Склала Ала ГРУШЭЎСКАЯ.**

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў №

1.Сажалка. 2.Капсула. 3.Кувалда. 4.Купалле. 5.Кавадла. 6.Пасадка. 7.Гарбуша. 8.Каманда. 9.Падвода. 10.Камбала. 11.Плагіят. 12.Клавіша. 13.Спальня. 14.Спагада. 15.Крадзеж. 16.Грыльяж. 17.Страчок. 18.Студэнт. 19.Секатар. 20.Верабей. 21.Фіранка. 22.Піфагор. 23.Фаланга. 24.Падатак. 25.Гутарка. 26.Мурашка. 27.Аметыст. 28.Эмбарга. 29.Біяполе. 30.Містыка. 31.Капсуль. 32.Фарпост.

## Прыкметы паляпшэння надвор'я

Вецер становіцца парывістым.

Моцны вецер у часе дажджу.

Перад непрацяглым паляпшэннем надвор'я вецер сціхае.

На небе з'яўляюцца прасветы паміж воблакамі; з'яўляюцца пёрыстыя воблакі і да вечара знікаюць.

Па ярка блакітным бліскотным небе белымі марскімі ветразямі, асобнымі клубкамі імчаць кучавыя воблакі — у той бок, адкуль дзьме нізавы вецер.

У часе дажджу з'явілася вясёлка: блакітны колер не густы, затое жоўты вельмі яркі.

Дождж ідзе пры сонцы.

Неба хутка святлее перад непрацяглым паляпшэннем надвор'я.

Сонца весела гуляе на Звеставанне (Благавешчанне — 7 красавіка) — такое ж сонца будзе і на Вялікдзень.

Туман узнімаецца ў лагчынах і далінах.

Ціск павышаецца перад непрацяглым паляпшэннем надвор'я.

## Прыкметы ўстойлівага яснага надвор'я

Ноччу ціха, удзень вецер, да вечара ён сціхае. Да поўдня вецер паварочвае к сонцу, пасля поўдня — супраць сонца.

Неба яснае і бязвоблачнае, альбо пакрыта нерухомымі воблакамі высокага яруса, гэтыя воблакі растаюць да паўдня. Увесну і ўлетку з'яўляюцца кучавыя воблакі, яны рухаюцца па ветры, да вечара растаюць.

Дым узнімаецца ўверх слупам.

Зараніца пунсовая ці залацістая.

Вечарам і ноччу выпадае густая шчодрая раса, раніцаю хутка высыхае.

Вечарам у лагчынах і нізінах збіраецца туман.

Ноччу вялікі мароз, удзень аслабне.

Увесну — удзень цёпла; улетку — удзень горача, ноччу — прахалоднасць; зімою ноччу — мароз, днём ён слабее.

Некалькі дзён атмасферны ціск не мяняецца альбо ледзьледзь павышаецца.

**Сабраў і ўпарадчыў Валер САНЬКО, пісьменнік, доктар народнай медыцыны.**

**11 красавіка**

**ПЯТНІЦА**
Усх. 6.18 Зах. 20.04
Даўж. дня 13.46
Першая квадра
10 красавіка

Сёлета спаўняецца **265 гадоў** з часу першых летапісных звестак (1738) пра г. п. Клічаў



ХОТИТЕ ВЕРЬТЕ, ХОТИТЕ — НЕТ

# Глаза вам скажут о болезни

В наш XXI век самым сложным механизмом на Земле по-прежнему является творение, которое создал многие тысячи лет назад сам человек. Наш организм, как те часы: работает-работает, а потом вдруг какая-то деталь в нем ломается. Сначала — одна, потом — другая, а то и несколько сразу.

Что делаем мы в таком случае? Правильно — бежим к врачам ремонтировать поломку. Кто "бегал" по врачам, тот знает, что это такое. Встать нужно ни свет ни заря, отстоять в очереди за талончиком, отсидеть у двери кабинета, подождать, пока там попьют кофе, выслушать сетования на маленькую зарплату...

Лучше, конечно, не знать всего этого, не сталкиваться. Тем более, что, оказывается, диагностику всего организма можно провести по... глазам. Это поможет правильно выбрать лечение и осуществить контроль за выздоровлением.

Отправляюсь в биомедцентр "Познание" к мануальному терапевту и целителю Татьяне СТРЕЛЬЦОВОЙ.

**— Татьяна Михайловна, что это за чудо-метод — определять болезни по глазам?**

— Этому методу более 3000 лет. В древности жрецы по радужной оболочке глаз могли определить, какое у человека заболевание. Каждая радужка соответствует конкретному органу. Таким образом, специалист может оценить состояние внутренних органов, перенесенные ранее заболевания, предрасположенности к ним. Можно определить состояние обмена веществ. Назначить лечение.

**— Как выглядят глаза, когда человек здоров или болеет?**

— Если человек полностью здоров, то глаза его имеют гладкую шелковистую оболочку, но если какой-то орган хандрит, то в глазах можно увидеть вырытую лунку, растянутость, красные или бордовые точки.

**— Но вы же можете и ошибаться?**

— Можно сдать анализы и убедиться в том, прав специалист или он ошибается. Иридодиагностика — лечение по глазам — позволяет устранить существующую болезнь. Я — не противник официальной медицины, ведь сама медик, но порой врач не может установить патологию. Бывает, приходит человек и жалуется на боль в руке. Начинаешь искать причину ее возникновения. И оказывается, что позвоночник зажат, грыжа появилась, нарушилась циркуляция. Так вот, благодаря иридодиагностике болезнь легко установить и предотвратить.

**— Как вы лечите людей?**

— Тут и травы, и массаж, и иглорефлексотерапия, и гомеопатия. Я веду свое лечение без таблеток и уколов. Ведь всем известно, что с помощью химических препаратов мы зачастую наносим вред своему организму. А экология у нас, как вы знаете, не идеальная, и организм человека и без того ослаблен.

Я как целитель очищаю весь организм. Как-то ко мне на прием пришла женщина, которой был поставлен диагноз — цирроз печени. Печень ее была практически "съедена" болезнью. Женщина прошла у меня 15 сеансов, и это дало результат. Сначала было восстановлено 20 процентов печени, затем — 50, через год — уже 80. Все поразились такому чуду. И мне было приятно, что женщина пришла цветущая, у нее началась другая жизнь, работает на даче. Меня когда-то саму вылечила 100-летняя целительница и передала свои секреты. На 12.000 серебряных иголочек кладу человека и каждую точку начинаю стимулировать. Лечение обязательно провожу с молитвами.

**— Своеобразный культ?**

— Это не культ. Просто наиболее успешного лечения можно добиться лишь путем духовного исцеления человека. Господь помогает вылечить больного. Поэтому пациенту перед лечением необходимо прийти в церковь, исповедоваться. И еще одно немаловажное условие: ни одной таблетки, ни одного укола, ни грамма спиртного. Если человека такие условия устраивают, то начинаем лечение.

**— Боретесь ли вы с неизлечимыми болезнями?**

— Не лечу шизофрению (здесь совершенно иная сфера), венерические болезни, онкологию 3-й и 4-й степени. Я могу, конечно, взяться, но гарантировать успешный результат нельзя. Все зависит от самого человека, как он будет выполнять рекомендации. Ведь здесь стоит вопрос борьбы почти с мертвым организмом. У меня есть желание лечить тех людей, от которых отказалась официальная медицина. Я состою во Всемирной организации целителей, езжу на семинары. И вот недавно узнала, что появилась новая разработка. Человека, погруженного в наркоз, помещают в 45-градусную воду и оставляют на некоторое время. Таким образом уничтожаются раковые клетки. Наука не стоит на месте. Значит, есть смысл сражаться за каждого больного.

**Ольга РОМАНЮК.**

**ОТ РЕДАКЦИИ.**

*Высказывания Татьяны Стрельцовой мы не представляем как истину в последней инстанции. Каждый читатель по своему разумению может воспринимать ее аргументы и выводы. Профессиональная медицина наверняка имеет свой взгляд на затронутые проблемы. Словом, редакция не навязывает позицию Т.Стрельцовой, а лишь информирует о том, что такова имеется.*

## Пятница, 11 апреля

**БТ**

**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 23.00** Новости.
**06.10, 07.10** Доброе утро, Беларусь!
**08.10 "Линия защиты".** Сериал.
**09.10 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал. 2-я серия.
**10.05** Сад мечты. Передача для дачников.
**10.30** "На перекрестках Европы". Национальный телефестиваль песни.
**10.55** Кухня КВН.
**11.10 "Королева сердец".** Сериал.
**12.15** Добрый день, Беларусь!
**13.05** Историческая драма "Царевич Алексей".
**15.15 "Самая плохая ведьма".** Сериал для детей.
**15.40** 5 чудес.
**15.50 "Это классно!"** Молодежный сериал.
**16.20** 5 x 5. Информационно-развлекательная программа для старшеклассников.
**17.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Сериал. 3-я серия.
**18.15 "Линия защиты".** Сериал.
**19.05** Киноповесть **"Полынь — трава горькая".**
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама. Информационный канал.
**21.45** Новости региона.
**21.55 "Королева сердец".** Сериал.
**22.50** Зона X.
**23.15** Триллер **"Незабываемое".**

**ОНТ**

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 23.25** Наши новости.
**08.05** Телеканал "Доброе утро".
**09.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** Многосерийный фильм **"Другая жизнь".**
**10.45** "Фабрика звезд-2".
**11.15** Детский сериал **"Твинисы".**
**15.10** "Новый день". "Ударная сила". "Оружие антитеррора".
**15.35** Приключенческий фильм **"Юный Геркулес".**
**17.05** "Большая стирка" с Андреем Малаховым.
**18.10** Юмористическая программа "Сами с усами".
**18.40** Док.детектив. "Декорации для преступления". Дело 2000 года.
**19.05 "Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**20.00** Время.
**21.00** "Поле чудес" с Леонидом Якубовичем.
**22.05** "Фабрика звезд-2".
**23.40** Комедийный боевик **"Мой любимый марсианин".**
**01.15** Тото Кутуньо, Надежда Кадышева, Лолита, Лайма Вайкуле, Аль Бано и другие в концерте "Сан-Ремо в Кремле".

**РОССИЯ**

**08.40** Сериал **"Тайга".**
**09.40, 18.50** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**10.20** В поисках приключений.
**17.50** Аншлаг.
**19.30** Местное время. Вести — Москва.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Премьера. Юбилейный концерт Михаила Евдокимова "Смех, да и только!"
**21.50** Криминальная драма **"Киднеппинг".**

**КУЛЬТУРА**

**15.35 "Прошлым летом".** Короткометражный худ.фильм. Режиссер В.Трегубович.
**16.15** "С потолка". Программа О.Басилашвили.
**16.40** "Дети Третьего Рейха". Док.фильм.
**17.15** Гербы России.
**17.30** Вести.
**17.40** Новости культуры.
**17.55** Полуденные сны.
**18.25** Ко Дню космонавтики. "Территория". Док.фильм. Фильм 2-й.
**18.50** Ток-шоу "Оркестровая яма". Ведущий А.Варгафтик.
**19.30** К 180-летию со дня рождения А.Н.Островского. "Замоскворецкий житель".
**20.10 "Таланты и поклонники".** Худ.фильм. Режиссер И.Анненский.
**21.35** "Линия жизни". Вячеслав Полунин.
**22.30** Смехоностальгия.
**23.00** Новости культуры.
**23.25** "Кто там..." Авторская программа В.Верника.
**23.50** Программа передач.

**НТВ**

**09.00** Сегодня утром.
**09.20** Погода на завтра.
**09.25** Док.драма "Преступление и наказание".
**10.00, 11.00, 15.00, 16.00, 17.00** Сегодня.
**10.05** "Национальная безопасность: мертвые души". Расследование НТВ.
**14.35** "Адюльтер: бесчестие или любовь". Ток-шоу "Принцип домино".
**16.05 "Бандитский Петербург: опер".** Сериал.
**17.20** Команда.ru.
**18.00** "Сегодня" с Татьяной Митковой.
**18.35** "Свобода слова" с Савиком Шустером.
**19.55** Боевик **"Осьминожка".**
**22.30** "Все сразу!" Ночные развлечения.

**СТВ+RenTV**

**05.00** Музыкальный канал.
**05.30 "Битлборги".** Телесериал.
**05.55, 15.55 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры".** Телесериал.
**06.20, 15.25** "Джим Баттон". Мультсериал.
**06.50, 15.00** "Новый экшенмен". Мультсериал.
**07.15** "Минщина. Люди, события, факты".
**07.25, 13.30, 16.30, 19.30, 22.55** "24 часа".
**07.45** "СТВ-спорт".
**07.55** "Завтрак с Инной Афанасьевой".
**08.00** "Минск и минчане".
**08.05** "Технология".
**08.15** Комедия **"Несправедливо обвиненный".**
**10.15** "Игровой рефлекс".
**10.25** "Добро пожаловаться".
**10.35** "Под углом 23 с половиной". Док.фильм.
**11.00** "Автопанорама".
**11.15** "Театральные истории".
**11.30 "Вино любви".** Теленовелла.
**12.25** "Народ против". Телеигра.
**12.55 "Агентство".** Комедийный сериал.
**13.50, 18.40 "Крутой Уокер ".** Телесериал.
**14.35 "ОБЖ, или ...".** Телесериал.
**16.45 "Медики".** Комедийный сериал.
**17:55** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.05** "Филармоническая неделя".
**18.10** "Светская хроника".
**18.15** "Минск и минчане".
**18.25** "Тема дня".
**19.50** "СТВ-спорт".
**20.00** "Реактивный бокс".
**20.15** Детский экран. "Добрый вечер, малыш...".
**20.35** "Автопанорама".
**20.50** Мелодрама **"Тыква".**
**23.15** "Технология".
**23.25** "Новости СНГ".
**23.40** Боевик **"Киборг — телохранитель".**

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** Мульт-парад.
**17.45** Худ.фильм **"Ни слова больше".**
**19.15** Банка комиксов.
**19.45** Документальный экран.
**20.40** Международные новости с "Дойче велле".
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** К-видео "Топ-8".
**21.10** Триллер **"Паутина лжи".**

**ТВ ЦЕНТР**

**07.50** Газетный дождь.
**08.00** Смотрите на канале.
**08.05** Худ.фильм **"Племянник".**
**09.40** Европейские ворота России.
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** События. Время московское.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.10** Игра в прятки.
**11.30** А у нас во дворе...
**11.55** Денежный вопрос.
**12.10** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15 "Инспектор Деррик".** Криминальный телесериал.
**14.30** Все о здоровье в программе "21-й кабинет".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** Живой уголок.
**16.00** Молодежь за культуру мира.
**17.15** "Алфавит". Телеигра.
**18.00 "Узы любви".** Телесериал (Мексика).
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**19.00 "Большое ограбление".** Худ.фильм.
**21.40** Русский век.
**22.20** Москва. Хроника нового времени.
**22.35** Времечко.
**23.10** 25-й час. События. Время московское.
**23.30** Петровка, 38.
**23.45** "Открытый проект". Молодежный канал.
**01.50** Чемпионат России по хоккею. Пятый матч финала.

**EUROSPORT**

**09.30** Ралли. Новая Зеландия. Повтор.
**10.00** Футбол. Кубок УЕФА. Полуфинал. Повтор.
**11.00** Футбол. Кубок Либертадорес. 10 день соревнований. Повтор.
**13.00** Велоспорт. Тур Страны басков. Пятый этап. Прямая трансляция.
**14.00** Футбол. Кубок УЕФА. Полуфинал. Повтор.
**15.00** Керлинг. Чемпионат мира. Виннипег.
**17.00** Велоспорт. Тур Страны басков. Пятый этап. Повтор.
**18.00** Велоспорт. Тур Страны басков. Пятый этап. Прямая трансляция.
**20.00** Теннис. Турнир WTA. Чарлстон. Четвертьфинала. Прямая трансляция.
**21.30** Автогонки. Отчет.
**21.45** Супергоночный вик-енд. Журнал.
**22.45** Ралли Рейд.
**23.00** Самый сильный человек. Стокгольм. Повтор.
**00.15** Суперкросс. Чемпионат мира. Понтиак.
**01.15** Ралли. Новая Зеландия.
**01.45** Экстремальные виды спорта. Повтор.

**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Індэкс 63222.**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ



Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на УП "Чырвоная зорка", 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 30 150 экз. Заказ №695.